БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА

# ЦАРКОЎНЫЯ НАВІНЫ-CHURCH NEWS

## BELARUSAN AUTOCEPHALOUS ORTHODOX CHURCH

*Published by Parsh of St. Kiryla of Turau*

*524 St. Clarens Ave., Toronto, Ont., Canada, M6H 3W7. Tel. (416) 530-1025*

**God. 15** Каляды 1997 2(58)

## КАЛЯДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

дастойнаму сьвятарству і ўсім багалюбным праваслаўным вернікам Беларускага Народу

### ХРЫСТОС РОДЗІЦЦА!

«Вось, Дзева ва ўлоньні зачне й народзіць Сына; і дадуць Яму імя: Эмануіл, што азначае: з намі Бог (Мц. 1:23).

Дарагія Браты й Сёстры!

Сьветлы момант нараджэньня Хрыстовага зьмяніў гісторыю ўсяго чалавецтва й стаўся пачаткам нашага ратунку. Сёньня пачуцьцё шчасьця напаўняе сэрцы нашыя, бо для ўсіх людзей зьзяе зорка Бэтлеему, і нам усім разам з шматлікімі анёламі нябеснымі хочацца ўслаўляць народжанага Бога й вымаўляць: «Слава на вышынях Богу, а на зямлі мір у людзей добрай волі» (Лк. 2:14). Няхай усе людзі суцешацца ў вялікай радасьці, бо ўжо ёсьць падтрымка прыгнечаным і пакрыўджаныя маюць Абаронцу.

Гэтае падтрымкі патрабуем і мы беларусы, як на бацькаўшчыне так і на эміграцыі. Колькі ліха, бяды ды гора зазналі нашыя людзі. Зямля нашая таптаная й надалей пакутуе ад людзей, якія стараюцца скарыць нас, вынішчаючы нашую сьвятую мову, нашыя звычаі, нашую гісторыю й нашую культуру. Адкуль бярэцца гэтае ліха? У Сьв. Пісьме сказана: «І з дому гэтага, што быў найвышэйшы, кожны, хто праходзіць міма яго, зжахнецца й скажа: "За што ўчыніў так Госпад зь зямлёю гэтаю й з домам гэтым?" І скажуць: "За тое, што яны пакінулі Госпада, Бога бацькоў сваіх..., і ўхапіліся за багоў іншых, і кланяліся ім, і служылі ім, — за тое Бог навёў на іх усе гэтае ліха"» (2Летап. 7:21-22).

Страх ёсьць найбольшым псыхалягічным прыгнётам людзей. Страх, абсалютна супрацьлеглы нашай веры, якая ўліваецца ў душы людзкія, як шчодры дар любові ад Божага Духа. І калі ў нашых цяжкасьцях мы трацім пачуцьцё любові да ўсяго свайго, тады пакідае нас і пачуцьцё самасьвядомасьці, самапашаны, самаўпэўненасьці. Карэньні страху, ад якога мы мусім вызваліцца, знаходзяцца ў кволасьці нашае веры ды малым спадзяваньні на апеку Божую поўную мілаты й дабрыні. Калі апосталы спалохаліся ўсхваляванага мора й прасілі Хрыста, каб памог ім. Дык Ён запытаўся ў іх: «Чаму вы так спалохаліся, МАЛАВЕРНЫЯ?» (Мц. 8:26).

Хрыстос абяцаў нам вызваленьне, тым што пакутуюць пад прыгнётам, і мы ведаем, у Кім палёгка нашая, бо ў Дабравесьці сказана: «Прыйдзеце да Мяне ўсе спрацаваныя й абцяжаныя, і Я супакою вас. Вазьмеце ярмо Маё на сябе й навучэцеся ад Мяне: бо Я ціхі й лагоднага сэрца, і знойдзеце супакой душам вашым. Бо ярмо Маё любае й цяжар Мой лёгкі» (Мц. 11:28-30). Больш таго, Хрыстос прыйшоў адкрыць нам, што мы маем любаснага Айца нябеснага, Якому ведамы кожны волас на галовах нашых. У сьвятле гэтага адкрыцьця, хваляваньні й страх пакінуць нашыя сэрцы, бо калі Госпад клапоціцца пра птушкі нябесныя і апранае палявыя лілеі красою, дык тым больш Айцец наш нябесны ўратуе нас ад небясьпекі. Дабравесьце вучыць нас: «Ня бойцеся, малое стада; бо Айцец ваш упадабаў даць вам валадарства» (Лк. 12:32).

Кожны з нас няхай прыгадае песьню: «Ля рэк бабілёнскіх» (Пс. 136/137), якая пяецца на ютрані ў Нядзелю Блуднага Сына. Песьня «Ля рэк бабілёнскіх», гэта плач габрэяў, калі яны былі ў бабілёнскай няволі. У песьні выяўляецца туга габрэйскага народу па згубленай бацькаўшчыне. Габрэі плакалі, калі яны згадвалі пра сваю бацькаўшчыну Сыён.

Габрэі будучы ў няволі прысягнулі прад Богам: «Калі я забуду цябе Ерусаліме, няхай забудзе мяне правіца мая; няхай прыліпне язык мой да паднябеньня, калі я не згадаю цябе, калі ня дам перавагі Ерусаліму над вышэйшай радасьцяй сваёй» (Пс. 136/137:5-6). Габрэі ўсклікнулі да панявольніка: «Дачка Бабілёну, нішчыцелька! Шчасьлівы той, хто адплаціць табе за ўчынак, што ты нам учыніла!» (Пс. 136/137:8-9). Габрэі былі верныя сваёй прысязе, таму яны здабылі сваю незалежнасьць пасьля дзьвюх тысяч гадоў.

Дарагія мае, заўсёды знаходзіліся ў нашым народзе людзі, якія добра ведалі, што трэба ў Бога шукаць падтрымкі, каб перанесьці ўсе цяжкасьці. Хрыстос прыйшоў да нас, каб паказаць, што рукі бяспраўных слабыя, бо да нас паслана слова ратунку, бо мы ўсё спадзяваньне нашае маем у ласцы, якая дадзена нам праз народжанага Ісуса Хрыста. Таму мы ў сіле зрабіць усе намаганьні, каб захаваць чысьціню сэрцаў нашых,

напоўненых сапраўднай любоўю. Той любоўю, якой сын любіць бацьку — не ад страху, не ў спадзяваньні ўзнагароды, але ад чысьціні пачуцьця. Мець гэткую любоў, значыць быць вызваленымі. У Сьвятым пісьме сказана: «Таму ўсьцешылася сэрца маё, ды ўзрадаваўся язык мой; дый цела маё супачыне ў спадзяваньні, бо Ты не пакінеш душы мае ў пекле й не дасі Сьвятому Твайму пабачыць тленьне. Ты даў мне ведаць шляхі жыцьця; Ты напоўніш мяне весялосьцю прад абліччам Тваім» (Дзеі 2:26-28).

Гэтак і нашыя душы няхай напоўняцца весялосьцю, каб вусны нашыя ў нашай роднай мове засьпявалі песьню падзякі Народжанаму Ратаўніку нашаму. Каб чысты гук нашых малітваў быў пачуты ды абудзіў нашую Бацькаўшчыну. Бо вось паслана нам Сьвятло праўдзівае, якое прасьвятляе кожнага чалавека прыходзячага на сьвет (Ян 1:9).

ХРЫСТОС РОДЗІЦЦА — ЯГО СЛАЎЦЕ!!!

Каляды лета Божага 1997-га.

Мітрапаліт Мікалай

## ПАТРОНКА БЕЛАРУСАЎ УСЁЙ СІБІРЫ

Як падае часопіс «Кантакты й дыялогі» за 9-10 верасень-кастрычнік, 1997 г., што ў Навасібірску (Расія) асьвечаны абраз (ікона) Сьв. Еўфрасіньні Полацкай, і якую беларусы Сібіры прынялі за Патронку беларусаў усёй Сібіры. Добрая думка й пастанова нашых суайчыньнікаў беларусаў Сібіры, што выбралі сваёй патронкай сваю Сьвятую. Шкада, што не падана багамаза, хто намаляваў гэтага абраза Сьв. Еўфрасіньні.

Добра будзе, калі за добрым прыкладам нашых беларусаў сібіракаў, пойдуць нашыя беларусы далёкага замежжа й далучацца да іх і нашая Сьв. Еўфрасіньня будзе прызнана апякункай усіх беларусаў замежамі Беларусі.

## МАЛІТВА НА ЧУЖЫНЕ ДА СЬВ. ЕЎФРАСІНЬНІ

О, сьвятая й слаўная апякунка й асьветніца Беларускага народу, маці нашая Еўфрасіньня! Глянь ласкавым вокам сваім на братоў і сёстраў тваіх, што зь любасьцю й надзеяй вочы душаў сваіх да Цябе падымаюць. Ты не асудзіла нас, што мы ў няволі сваёй доўгі час не маглі славіць у сьвятынях сваіх сьвятога імені твайго. Бо мы ведаем, што гэта ты сьвятымі малітвамі сваймі выпрасіла нам мілату Ратаўніка нашага, і мы цяпер у сьвятынях сваіх можам аддаваць хвалу Трыадзінаму Богу й Табе, апякунцы нашай. Таму і ўдзячныя сэрцы нашы, поўныя любасьці й падзякі да цябе, у захапленьні сьпяваюць: Радуйся! Радуйся, заступніца, апякунка й малельніца наша! Радуйся, радаваньне Полацкай і ўсёй зямлі нашай Беларусі! Радуйся, дзеваў чысьціня й зьзяньне! Радуйся, прамень веры нашай! Радуйся, асьвячэньне любае Беларусі нашай! Радуйся, пашыральніца дабра, праўды, красы й згоды ў краіне нашай! Радуйся, памочніца пакрыўджаных, сумных пацяшэньне! Радуйся, удоваў і сіротаў заступніца! Радуйся, кветка з райскага саду нясьмягнучая! Радуйся, у веры нашай на чужыне і ў пакутах падтрыманьне! Радуйся, паміраючых пацеха й хворых выздараўленьне! Радуйся, да магілы Хрыстовай зь сьвятымі духмянасьцямі прыходзячая! Радуйся, усё Хрысту ахвяраваўшая! Радуйся, сьвятых угоднікаў Божых краіны нашай зьзяньне, веліч і слава! Радуйся, сьвятая маці нашая, Еўфрасіньня.

Прымі, заступніца нашая, гэтую малітву братоў і сёстраў тваіх, як нашую нявымоўную падзяку, любоў і хвалу табе — надзея, слава й пацеха наша! Усе мы з радасьцю аддаём сябе пад сьвятую апеку тваю. Маліся й далей за шматпакутны беларускі народ наш перад пасадам Усявышняга, каб мы сталіся верным і набожным, выбраным народам Ягоным! Каб Ён Духам Сваім Сьвятым узмацняў і прасьвятляў душы й сэрцы нашых пастыраў і правадыроў, пацяшаў і радаваў нашых удоваў і сіротаў, а ўсім нам паслаў спакой і радасьць на чужыне і прывёў нас на вольную зямельку нашу, каб мы ўсе разам там маглі славіць цябе і пяяць хвалу Яму, Ратаўніку нашаму, ды цешыцца й радавацца ў валадарстве славы Ягонай навекі вечныя. Амін.

## МАЛІТВА ДА СЬВ. ЕЎФРАСІНЬНІ ВЯЛІКАЙ КНЯЗЁЎНІ ПОЛАЦКАЙ



Патронка беларусаў усёй Сібіры
Здымак узяты з «Кантакты і дыялогі» 9-10, верасень-кастрычнік 1997г.

О дастойная, вечнапамятная, усеслаўная Маці Еўфрасіньня, анёл у людзкім целе, Богам выбраная пасудзіна Сьвятога Духа, Хрыстовай царквы слава й ўпрыгожаньне, пахвала манашак, слава й ўмацаваньне веры ў манастыры сваім і ў народзе нашым, апякунка й прасьветніца Беларусі. Ты была, як дрэва плоднае пасаджанае пры вытоках вод, на гадоўлю добрага насеньня, як крыніца жывой вады з дарам Духа Сьвятога дабрадзейнай ласкай упрыгожана, што ўчынкамі словам навучаеш. Выбраная, чыстая й добрая Інакіня, багабойная й сьвятая. Мы просім Цябе, Дастойная, пачуй нас, што вымаўляем імя Тваё ў малітвах сваіх і памажы нам у жыцьці нашым, бо Ты маеш ласку й сьмеласьць у Госпада. Упрасі Яго, каб жыць нам дасканалым жыцьцём, заслані нашыя сэрцы вераю, надзеяй, любасьцяй і каб мець нам страх Божы. Памажы нам у цяжкасьцях і смутках нашых, і гэтак, як Ты апекавалася манастыром і тымі, што жылі манаскім жыцьцём, гэтак мей ласку над намі й не пакінь нас без апекі. Патурбуйся за нас ува ўсім. Манастыр свой ахіні мірам і захавай яго ад сілаў варожых бачаных і нябачаных. Няхай Божая праўда й Госпад наш пераможа зло на нашай зямлі. Захавай нас ад усяго ліхога, хваробы й ад перадчаснай сьмерці, накіруй нас, каб мы каяліся пры канцы жыцьця нашага. Упрасі нам у Госпада Бога скон спаконы, бязбольны, бессаромны прыняўшы Сьвятыя Тайны. Упрасі, каб Бог паслаў нам міласьць і выбачэньне й неасуднымі пры вялікім троне станусь на страшны суд па праваруч справядлівага Судзьдзі Хрыста-Ратаўніка й атрымаць дзель справядлівых. О ўсядобрая маці, дастойная Еўфрасіньня, малітвамі тваімі памажы нам. Ахавай і заступіся за нас ува ўсякіх падкопаў не-

прыяцельскіх, ды ўдастоіцца прайсьці жыцьцё гэтае справядліва й добрымі, і без спакусаў, і дзеля малітваў тваіх атрымалі ратунак ад Госпада Хрыста. Каб мы былі дастойнымі сьпяваць і славу аддаваць Яму, з безпачатным Айцом, і са Сьвятым Духам, на векі вечныя. Амін.

## РАСЕЙЦЫ ЗЬДЗЕКУЮЦЦА НАД ПРАВАСЛАЎНЫМІ УКРАІНЦАМІ Ў РАСЕІ

Як падае украінскі месячнік «Вісньік», што выходзіць у Вынніпегу, Ман. за 15 кастрычніка 1997 году, што сотні вернікаў Украінскай Праваслаўнай Царквы, падпарадкаванай Кіеўскаму Патрыярхату, былі пабітыя заарыштаваныя 29 верасьня 1997 году расейскімі сіламі аховы грамадзкага парадку ў месьце Нагінску, Расея, недалёка ад Масквы на усход. Арыштаваны архіяпіскап Адрыян Кіеўскага Патрыярхату. Расейцы адабралі ад украінцаў катэдральны сабор, памешканьне архіяпіскапа Адрыяна, семінарыю ў Нагінску, жаночы манастыр КП і украінскі ліцей.

Архіяпіскап Адрыян мае дэпутацкі імюнітэт, як сябра мескай Рады, Нагінску.

У сувязі з расейскім скандалам, праваслаўныя ўкраінцы места Нагінска зьвярнуліся да украінскага ўраду, каб той заступіўся за іх.

Як бачым ачнуўся мангольскі дух цара Івана Жахлівага ў расейцаў.

## ВЯЛІКАПАКУТНІК МЕЛХІСАДЭК МІТРАПАЛІТ МЕНСКІ

Летась выйшла новая кніжачка на 63 бачыны, навукова-папулярнае выданьне, Тацяны Процька «Пакутнік за веру і Бацькаўшчыну», Мітрапаліт Мелхісэдэк, — Менск, Техналогія, 1996 г. Спадарыня Тацяна Процька ёсьць старэйшы навуковы супрацоўнік Інстытуту Гісторыі Акадэміі Навукі Беларусі. Аўтар кніжачкі падае шмат цэннага матэрыялу абаснаванага на архіўных дакумэнтах і з архіву КГБ, што цяпер сталіся ў нейкай меры даступнымі.

Абавязкова кожны сьвятар і вернікі БАПЦ павінны прачытаць кніжку й даведацца пра нашага вялікага волата Мітрапаліта Мельхісадэка, напісаную аўтарам Тацянай Процька.

На передапошняй бачыне 61 аўтар



Мелхісадэк Мітрапаліт Менскі
Здымак узяты з часопіса «Праваслаўе ў Беларусі і ў сьвеце, 94.1 бач. 35.

падае: што япіскапы Філарэт (Хвядос Раменскі) і Апанас (Хведар Вячорка), сьвятары Менскай царквы Сьв. Мары Магдалены Антон Кіркевіч, Сьцяпан Кульчыцкі, Міхал Рубановіч, рэгент Павал Вяршынскі, сьвятар Дзяржынскай царквы Сяргей Садоўскі, дыякан Якуб Бараноўскі, Уладзімер Лобач і шмат іншых былі расстраляныя ў Менску 1-а лістапада 1937 году.

У шасьцьдзясятую гадавіну расстрэлу, у нядзелю 2-га лістапада сёлета, архіяпіскап Мікалай у асысьце ярэя Васо Раяк і дыякана Юрыя Няпомняшага адслужыў паніхіду па тут успомненых ахвярах.

## РУКАПАЛАЖЭНЬНІ

У Кліўляндзе, Огаё, у сьвятыні Божай Маці Жыровіцкай, за Сьвятой Літургіяй, у сыботу 19 ліпеня сёлета архіяпіскап Мікалай рукапалажыў (высьвяціў) Зьмітра Беленкага на дыякана, а ў нядзелю 20 ліпеня — на ярэя. Архіяпіскап Мікалай назначыў айца Зьміцера на парафію Божай Маці Жыровіцкай, з мэтай, калі прыдзе час ачоліць парафію.

У Таронта, Антарыё, Канада, у сьвятыні Сьвятога Кірылы Тураўскага, за Сьвятой Літургіяй, у нядзелю 5 кастрычніка сёлета рукапалажыў (высьвяціў) на дыякана Юрыя Няпомняшага. Архіяпіскап Мікалай назначыў айца дыякана Юрыя на парафію Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта

## НАГАРОДА

У нядзелю 20 ліпеня сёлета за Сьв. Літургіяй, архіяпіскап Мікалай надаў айцу пратаярэю Міхалу Страпко званьне Пратапрасьвіцера.

## СЬВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ

7 жніўня 1997 г. пражыўшы 82 гады памёр Нічыпар Сільвановіч. Нябожчык пакінуў жонку Ванду, сына, дзьве дачкі (замужныя) і дзьвюх унукаў. Нічыпар быў адным з першых закладчыкам парафіі Сьв. Кірыла Тураўскага ў Таронта. Праз увесь час Нічыпар быў добрым парафіянінам. З усімі жыў у міры. Парафія Сьв. Кірылы Тураўскага складае для сям'і найшчырэйшыя спачуваньні.

Вечная памяць!

28 верасьня 1997г., ў Віннiпегу, правінцыя. Манітоба, на 92 годзе адыйшла на вечны супачын Аляксандра Бурдзь. Нябожчыцца аставіла шэсьць сыноў, добрых беларусаў. Ейны мужык Уладзімер аставіў сваю жонку ў 1959 годзе, — памёр.

Як кажуць яблыка, ад яблыні, далёка не адкоціцца. Сьвядомыя беларусы-бацькі перададуць сваю беларускую сьвядомасьць сваім дзецям. Калі Аляксандра зьнемагла й была ў доме нямоглых, яна скардзілася сваім сынам, што нехта яе пакрыўдзіў назваўшы яе расейкай. Гэта быў запавет маці сынам — яны беларусы. Сыны памятаюць маці запавет, што яны беларусы й падтрымоўваюць беларускую прэсу й грамадзкія установы.

Парафія Сьв. Кірылы Тураўскага выказвае для сям'і глыбокае спачуваньне ў страце маці й бабкі.

## ШАСНАЦЦАЦЬ РАЗЫ ПЯЦЬ

Як хто пытаўся ў яго колькі яму гадоў, дык адказваў: «Шаснаццаць памнож на пяць». Сёлета 21 травеня-/3 чэрвеня Архіяпіскап Мікалай закончыў пятую шаснаццатку (80) свайго жыцьця. З гэтае нагоды Парафія Сьв. Кірылы Тураўскага 8 чэрвеня 1997 г. наладзіла ўрачыстае прыняцьце Юбілянту.

На многія лета Ўладыка!!!

Парадак Багаслужбаў на Раджэньне Госпада Бога і Ратаўніка нашага Ісуса Хрыста.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Аўторак, | 6-га студзеня 1997 | Куцьця | 5-я гадз. вечара | Вялікае Павячоре |
| Серада, | 7-га студзеня 1997 | КАЛЯДЫ | 10-я гадз. раніцы | Сьвятая Літыргія |
| Нядзеля, | 11-га студзеня 1997 | | 10-я гадз. раніцы | Сьвятая Літургія |
| Серада, | 14-га студзеня 1997 | Новы Год | 10-я гадз. раніцы | Сьвятая Літыргія |
| Нядзеля, | 18-га студзеня 1997 | | 10-я гадз. раніцы | Сьвятая Літургія |
| | | | 5-я гадз. увечары | Вялікае Павячоре |
| Нядзеля, | 19-га студзеня 1997 | ВАДОХРЫШЧА | 10-я гадз. раніцы | Сьвятая Літургія і Асьвячэньне вады. |

Расклад візытаў са сьвятой вадой

| | | |
|---|---|---|
| Панядзелак, | 19-га студзеня 1997 | Toronto East and Richmond Hill. |
| Аўторак, | 20-га студзеня 1997 | Oshawa. |
| Серада, | 21-га студзеня 1997 | Kingston. |
| Чацьвер, | 22-га студзеня 1997 | Toronto Central. |
| Пятніца, | 23-га студзеня 1997 | Toronto Central. |
| Сыбота, | 24-га студзеня 1997 | London, Stratford, Guelph, Cambridge. |
| Нядзеля, | 25-га студзеня 1997 | Hamilton, Niagara Falls. |
| Панядзелак, | 26-га студзеня 1997 | Toronto West. |
| Аўторак, | 27-га студзеня 1997 | Oakville. |
| Панядзелак, | 28-га студзеня 1997 | Penetanguishene, Barry, Mansfield. |

Усе даты ёсьць умоўныя, бо з незалежных ад нас прычынаў могуць зайсьці зьмены, за што просім выбачэньня. Асабліва мясцовасьці далейшыя ад Торонта могуць быць найбольш закранутыя.

Мітрапаліт Мікалай.

## SCHEDULE OF CHURCH SERVICES FOR CHRISTMAS SEASON

| | | | |
|---|---|---|---|
| **Tuesday,** | **6th of January, 1997** | | **6 p.m. Vespers** |
| **Wednesday,** | **7th of January, 1997** | **Christmas** | **10 a.m. Holy Liturgy** |
| **Sunday,** | **11th of January, 1997** | | **10 a.m. Holy Liturgy** |
| **Wednesday,** | **14th of January, 1997** | **New Year** | **10 a.m. Holy Liturgy** |
| **Sunday,** | **18th of January, 1997** | | **10 am Holy Liturgy** |
| | | | **5 p.m. Vespers** |
| **Monday,** | **19th of January, 1997** | **Epiphany** | **10 a.m. Holy Liturgy** |

## SCHEDULE OF VISITS WITH HOLY WATER

| | | |
|---|---|---|
| **Monday,** | **19th of January, 1997** | **East Toronto and Richmond Hill.** |
| **Tuesday,** | **20th of January, 1997** | **Oshawa.** |
| **Wednesday,** | **21st of January, 1997** | **Kingston, Peterborough.** |
| **Thursday,** | **22nd of January, 1997** | **Central Toronto.** |
| **Friday,** | **23rd of January, 1997** | **Central Toronto.** |
| **Saturday,** | **24th of January, 1997** | **London, Stratford, Guelph, Cambridge.** |
| **Sunday,** | **25th of January, 1997** | **Hamilton, Niagara Falls.** |
| **Monday,** | **26th of January, 1997** | **West Toronto.** |
| **Tuesday,** | **27th of January, 1997** | **Oakville.** |
| **Monday,** | **28th of January, 1997** | **Penetanguishene, Barry, Mansfield.** |

**All dates are tentative. In some circumstances for reasons beyond our control changes may be necessary, for which we ask your forgiveness.**

**Metropolitan Mikalay.**